# З жыцьця „Грамады“.

## Пісьмо

### Цэнтральнага Камітэту Сялянска-Работніцкае Грамады да Старасты Наваградзкага павету ў справе паліцейскіх гвалтаў.

Гэтым даводзім да ведама п. Старасты ніжэйпісанае:

25. VII. 1926 г. прэзыдыум Гуртка Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады ў в. Сулятычах Гарадэчанскае гміны, Наваградзкага павету засядаў у памяшчэньні старшыны Гуртка Васіля Вырко а 9 гадзіне вечара і вырашаў пытаньне аб сяброўскіх складках; нікога пастароньняго ня было. Туды раптам зьявіўся п. Камэндант пастарунку з 2 паліцыянтамі Гарадэчанскае гміны і скамандаваў „ręce do góry!“ Яны наставілі рэвальвэры і пачалі рабіць вобыскі ў кішанёх. Знайшлі некалькі запоўненых дэкларацыяў аб уваходзе ў нашую партыю і чарнавы сшыток з запісямі, хто колькі з сяброў унёс грошай (партыйных складак), якія яны меліся пераслаць нам у Вільню. Пасьля вобыску пачалі іх лаяць. Камэндант крычаў: „Ja Wam pokażę Białoruś-Komuniści!“. Паліцыянты ўсю ноч хадзілі па вёсцы і страшылі насяленьне. Дэкларацыі і сшыткі забралі і сказалі, што расправяцца з імі пасвоему. Пасьля таго Камэндант ходзіць па вёскам і палохае людзей вобыскамі, настаўляючы рэвальвэр.

Думаем, што п. Старасьце ведама, што Беларуская Сялянска Работніцкая Грамада з'яўляецца легальнай палітычнай арганізацыяй, якая, ідучы да сваіх мэтаў, карыстаецца шляхам легальнай, законнай барацьбы на аснове канстытуцыі і права (§ 51 праграмы Бел. Сял. Работ. Грамады) і апіраючыся на існуючых законах аб палітычных партых (Rozp. Ministra Spr. Wewn. z dnia 17. II. 1920 r.— Dz. Urz. Min. Spr. Wown. № 7 z dnia 25. IX. 1920 r.; i prawo o zgromadzeniach na terenie b. zaboru rosyjskiego tom XIV art. 115) мы можам спадзявацца, што п. Староста захоча навучыць падуладную сабе паліцыю, як законна выконваць свае абавязкі, што Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада-легальная палітычная партыя, што сходы не ўважаныя за публічныя, а тым больш паседжаньні прэзыдыуму, можна рабіць свабодна без паведамленьня і дазволу панствовай улады.

Ня маючы ў даным разе на сваю абарону проці гвалту паліцыі закону, мы мусім спадзявацца, што п. Стараста, строга пакараўшы вінаватых у надужыцьці ўлады агэнтаў паліцыі, прыкажа паліцыі зараз-жа зьвярнуць незаконна забраныя дэкларацы і сшыток—прэзыдыуму нашага Гуртка ў в. Сулятычах.

Старшыня (подпісь).

Сэкрэтар (подпісь).

---

58. У вёсцы **Пяшчанцы**, Скідэльскае гм., Гарадзенскага пав., 18./VII. г. г. з'арганізаваны Пяшчанаўскі Гурток Белар. Сялян.Работ. Грамады.

59. У вёсцы **Баранаве**, Лашскае гм., Горадзенскага пав., 18./VII. г. г. з'арганізаваны Баранаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

60, У вёсцы **Пажарышчы**, Гарадоцкае гм., Маладэчанскага пав., 18./VII. г. г. з'арганізаваны Пажарышчанскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

61. У вёсцы **Мястэчку**, Манькаўскае гм., Пастаўскага пав., 11./VII. г. г. з'арганізаваны Мястэчкаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады

62. У м-ку **Казяны**, Багінскае гм., Браслаўскага пав., 14./VII. г. г. з'арганізаваны Казянскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

63. У вёсцы **Ліпнішкі**, Пастаўскае гм., Пастаўскага пав., 10./VII. г. г. з'арганізаваны Ліпншскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

64. У вёсцы **Лазовікі**, Луцкае гм., Пастаўскага пав., 16./VII. г. г. з'арганізаваны Лазовіцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

65. У вёсцы **Крывое**, Норыцкае гм., Пастаўскага пав., 17./VII. г. г. з'арганізаваны Крыўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

66. У вёсцы **Малай Марочне**, Марачанскае гм., Пінскага пав., 15./VII. г. г. з'арганізаваны М.-Марачанскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

67. У вёсцы **Вялікай-Ларочне**, Марачанскае гм., Пінскага пав., 18./VII. г. г. з'арганізаваны В.-Марачанскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

# Прамова прэм'ера Бартля у Сэнаце.

Як і ў Сойме, сказаў прэм'ер у Сэнаце вялікую прамову—у абарону сваіх праектаў аб зьмене Канстытуцыі і паўнамоцтваў для яго ўраду.

Тон новага экспозэ пана прэм'ера значна „ўзрос“—у параўнаньні з соймавым.

Адказываючы ў Сэнаце на крытыку яго прамовы ў Сойме, прэм'ер перадусім заявіў, што гэта крытыка была нічога няvартай—бо ня толькі—ня творчай, але навет „ня чэснай“... Так даслоўна і было сказана.

На закід, што ўрад ня мае ды ня вылажыў у экспозэ ніякай праграмы, прэм'ер коратка заявіў: нашу праграму, паночкі, пабачыце ня з нашых дэкларацыяў, але — з нашых чынаў. Інакш кажучы,—урад, калі і мае праграму, дык трымае яе ў сэкрэце ад парляманту, ад грамадзянства, ад народу.—Вось, як пачне рабіць, што захоча, тады і пабачым усе.

Правая рука марш. Пілсудскага (у левай, як ведама,—„бат“...) п. Бартэль трэбуе для свайго ўраду перадусім—„свабоды руху, магчымасьці неабмяжаванага высілку“... — Ніякіх путаў, вязяў, ланцугоў пан прэм'ер і яго міністры для сябе ня хочуць. Тады яны толькі могуць працаваць ды ўрадаваць, накладаючы путы, вязі ды ланцугі на другіх—на грамадзянства, на народ... — у форме розных дэкрэтаў—законаў... Гэта-ж і—найлягчэй... —„Незалежнасьць выканаўчай улады ад заканадаўчай“—вось ідэал „перакананага парлямантарысты“ п. Бартля...

У гэткай школе ўрадавага самаўладзтва ён маніцца ўзгадаваць „ініцыятывы, пачуцьце гордасьці і годнасьці рэспубліканскага грамадзянства ў Польшчы“, а з самадзяржаўнай і дрэннай цяпер, як прызнае прэм., польскай бюракратыі зрабіць—„ідэйны дзяржаўны апарат“... Прэм'ер не дапускае ніякіх палітычных уплываў (варожых сабе трэба было сказаць) на гэты апарат, і дзеля таго пяе гімн... ваеннаму міністру Пілсудскаму, які зусім „выганяе палітыку з арміі“, праўда, разам з сваімі палітычнымі ворагамі, пачынаючы з генаралаў, дадамо мы...

---

У гаспадарчай частцы экспозэ прэм. даў цікаўныя лічбы аб гаспадарчым заняпадзе Эўропы ў пэрыяд 1913—1925 г. г. — Працэнтнае ўчасьце Эўропы ў сусьветнай таргоўлі за гэты час спала з 64 проц да 52 проц., доля у сусьветным залатым запасе спала з 59 проц. да 32 проц. Золата і гандаль перайшоў з Эўропы да Амэрыкі і Японіі. Цікаўную характэрыстыку эканамічнага стану буржуазнай гаспадаркі ў сьвеце сучасным дае прэм. далей.—Гаспадарчае жыцьцё стала на мейсцы. Гаспадарчыя балянсы — крытычныя. Урады імкнуцца да патаненьня прадукцыі, да ашчаднасьці ў дзяржаўных выдатках, да пашырэньня паўнамоцтваў урадам у галіне гаспадарчага жыцьця... Дзяржавы імкнуцца да супрацоўніцтва ўзаемнага, перадусім у гаспадарчай галіне... Тое-ж трэба рабіць і Польшчы. У Польшчы заламалася новая валюта Грабскага, бо ён, утрымліваючы штучна злоты, не рабіў нічога для зьніжэньня цэн у краі. Высокія цэны ў краі рабілі немагчымымі прадукцыю і вываз, ад гэтага гандлёвы балянс падаў, зьядаючы фонды Банку. — Гэтак сам бацька, спарадзіўшы злоты, сам і зьеў яго. Цяпер урад—разумней, дык будзе абніжаць цэны ў краі ў першы чарод (пакуль-што — толькі растуць, а загады аб вывазе з краю ўсяго—за ўсялякую цану—пэўна-ж не панізяць цэнаў).

Вартасьць усей прадукцыі ў Польшчы прэм. аблічыў на 10—11 мільярдаў злотых. З гэтага 60 проц. (3/5) падае на сельска-гаспадарчую вытворчасьць і 40—на прамысловую. „Пры гэткай значнай прадукцыі дый пры такім паважным мейсцы Польшчы з пагляду на абшары, лічбу насяленьня, запасы сыр'я і крыніцы энэргіі (вугальле, лясы, вада), Польшча ўнутры была і ёсьць краем бедным, а вонках — дзяржавай засьцянковай, якая займае ў эўрапэйскім гандлю аж 13-е мейсца“.

Далей прэм. хваліцца, што быццам гэта „дзеяльнасьць ураду... ажывіла гаспадарчае жыцьцё краю“. Хаця сам перад-тым толькі што сцьвярдзіў, што „вугальная забастоўка ў Англіі ажывіла многа галін у польскай прадукцыі“.

У галіне фінансавай прэм. сцьвярдзіў падвышку абегу банкнотаў да 468 (на 26/7), запас чужых валют—да 94,86 мільён.

Прэм. сцьвярдзіў, што падставай дабрабыту дзяржавы ёсьць сельская гаспадарка. Дык разьвіцьце яе прадукцыі ўрад мае падтрымліваць. А дзеля гэтага ўрад і мае дапамагаць усяляка... вывазу збожжа з краю, асыгнаваўшы на гэта 20 мілёнаў. Ясна, аб якім „рольніцтве“ кажа прэм'ер, бо-ж вывозяць заграніцу толькі абшарнікі.

У канцы, жагнаючыся з Сэнатам і Соймам, прэм'ер ізноў выхваляў усе выгады і карысьць... заканадаўчай працы выканаўчай улады. Урад будзе пячы законы—значна шпарчэй, як Сойм, а — „на роскаш павольнага ўставадаўства Польшча сабе дазволіць ня можа“.

Адабраўшы ад парляманту ўсе яго заканадаўчыя прывілеі, прэм. не забыўся аднак-жа напомніць Сойму і Сэнату, што і ў іх яшчэ крыху засталася правоў для гэтай працы. Яны павінны будуць правясьці законы—аб самаўрадах і — слухайце-ж, паночкі,—парабіць патрэбныя зьмены у... Выбарным Законе, якія Сойм выключыў з паўнамоцтваў ураду. А тады Сойм і Сэнат могуць ужо заслужана адпачыць.

Найцікаўней дык гэта напамінаньне аб зьмене выбарнага закону. Сам прэм. заявіў, што ня хоча зьмяняць яго, як і трэбавала гэтага ўся ляўіца. Але цяпер — папросту пад'юджывае правіцу з Пястам рабіць гэта, карыстаючыся сваей большасьцю ў Сойме. Як маюць „паправіць“ гэты выбарны закон Хіена, Пяст, а навет „урадавыя радыкалы“, аб гэтым пагаворым пасьля.

# У Польшчы.

### Крэдыты на лепшае насеньне.

Рольны Банк асыгнаваў асобныя крэдыт і на закуп лепшых гатункаў азімага зярна на насеньне. Можна пазычыць па 14-16 проц. гадавых грошаў у банку тэрмінам па 6 месяцаў — праз сельска-гаспадарчыя каапэратывы, гмінныя касы, колкі рольнічыя і прыватыя фірмы. Можна пазычыць толькі столькі грошаў, каб пакрыць розьніцу ў цане між лепшым зярном для насеньня і звычайным збожжам на хлеб. Даведайцеся, хлебаробы,—мо' што і беларусам астанецца ад асаднікаў.

### Цікавая забарона.

Вайсковыя ўлады забаранілі рабіць манэўры дый усялякія вайсковыя ўчэньні пабліж граніцы... Якой?—Ведама-ж, радавай. Чаму?—Бо... бягуць жаўняры заграніцу... Так проста і матывуюць забарону...—Цікавасьці!..

### Галадоўка ў кракаўскім вастрозе.

Пасол Балін, старшыня Міжпартыйнага Сэкрэтар'яту для барацьбы за амністыю ў Польшчы, атрымаў тэлеграму з Кракава — аб пачаўшайся ў мяйсцовым вастрозе галадоўцы палітычных вязьняў. Вязьні трэбуюць, каб да іх стасавалі хаця тыя правілы, якія ўведзены яшчэ ў 1922 г. тым самым міністрам Макоўскім. Заместа спаўненьня міністэрскага акульніка, вастрожныя ўлады прывязьлі хворых з голаду вязьняў да бальніцы ды пачалі „штучна карміць“ іх. Ведама, што пры паліцы з ратоў ляцяць зубы ды льецца стругам кроў... У справу зараз-жа ўмяшаліся паслы Балін, Сахацкі ды навет пэпэсавец Марэк.

У апошні мамэнт „Трыбуна“ даведалася, што вязьні перамаглі. Законныя жаданьні іх споўнены.

### Манархісты хочуць мець уплывы сярод арміі.

У Польшчы ёсьць газэта „Польска Збройна“ —афіцыёз ваеннага міністэрства. Цяпер мае выходзіць яшчэ „Нова Польска Збойна“... Газэту залажылі дый маюць у ёй пісаць — паны генаралы Довбор-Мусьніцкі, абодва браты Галлеры ды сам Шэптыцкі—усе правадыры варожага Пілсудскаму лягеру ў арміі.

### Ліквідацыя Міністэрства Публічных Работ.

Рада Міністраў пастанавіла зьліквідаваць Міністэрства Публічных работ, рассоваўшы розныя належаўшыя да яго справы па іншым міністэрствам.

Гэтакім чынам апошнія завяяваньні польскага пралетарыяту; завяяваньні, за якія ППС і другія згоднікі аддалі ўладу буржуазіі ды хваліліся імі—скасованы цяпер урадам быўшага правадыра ППС—маршалка Пілсудскага.

### Бунт палітычных вязьняў.

Чытаем у „Robotniku“ (№ 208): „уночы з 27 на 28 ліпня вязьні турмы ў Грудзёндзу (Паморье) з прычыны сыстэматычнага браку ежы і нялюдзкага трактаваньня іх, павыбівалі, на знак пратэсту, шыбы ў камэрах, з крыкамі дамагаючыся пры тым абмежаньня турэмнай самаволі.

Адміністрацыя вастрогу заклікала ў адказ на гэта паліцыю, якая паводлуг чутак, зьверскім спосабам зьдзекавалася над вязьнямі, катуючы іх да крыві. Вязьняў разьдзелі да нага, закулі ў кайданы і голымі пазамыкалі ў лёхі турмы.

### Сацыял-згодніцкія партыі ў Польшчы — разваліваюцца.

Нядаўна была створана „Lewica PPS“, востра выступаючая проці здрады работніцкага руху правадырамі. Як даведываемся, развал ідзе і ў NPR (Narodowej Partji Robotniczej), якая на нашых землях трымала пад сваей апекай чыгуншчыкаў. У Лодзі пачала выхадзіць часопісь „Nowa Sprawa Robotnicza“, зьяўляючаяся органам адкалоўшайся апазіцыі.

### Забастоўка на Паморыі.

Шосты тыдзень бастуюць у Торуню, Грудзіондзу і Быдгошы работнікі, затрудненыя ў магістрацкіх установах.

У першых днях усе праф саюзы выступілі салідарна, аднак, дзякуючы здрадніцкай палітыцы N. P. R., еднасьць была разбіта.

У руках N. P. R. знайходзіцца магістрат і вось гэтыя сацыялісты нягодна здрадзілі работнікаў, прызываючы паслухмяную ім частку да працы.

Кіраўніцтва забастоўкі пайшло на ўступкі. Быў заключаны дагавор, паводлуг якога работнікі мелі-б атрымаць 16% падвышкі з гварантыяй, што ўсе будуць прыняты назад. За першай здрадай наступіла другая, гэтай апошняй умовы магістрат не датрымаў. Забастоўка з тае прычыны ўзноў аднавілася, аднак еднасьць ужо ня была ўстаноўлена.

Асьмялеўшы перамогай, Магістрат й на тых работнікаў, якія вярнуліся да працы, наложыў штраф за ўчасьце ў барацьбе.

Рэшта, у ліку 150 чалавек, бастуе да сягодняшняга дня.

1) Прэзыдыуму і Нагляднай Радзе Беларускага Каап. Банку ў Вільні 10 даляр.; 2) паслу Валошыну 3 дал.; 3) Янку Дуку 1 дал.; 4) сэнатару Багдановічу 5 зл.; 5) гр. Парфеновічу 5 зл.; 6) Івану Савіцкаму 2 зл.; 7) М. Заморыну 2 зл.; 8) М. Сіняўскаму 1 зл. 50 грош.; 9) К. Круку 2 зл.; 10) Г. Рудаку 2 зл.; 11) Дуровічу 1 зл.

**Скарбнік Вера Дрозд.**

**Афіцыяльны курс грошы на 3-га жніўня.** Даляр — 8 зл. 98 гр. Залаты рубель — 4 зл. 63 грошы.

30. VII. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,00. Чырвонец 45 зл.

# Карэспандэнцыі.

## Што чуваць?

(М-ка Казлоўшчына, Слонімскага пав.).

Калі польскі ўрад мае якога-небудзь некваліфікаванага вучыцеля, зрабіўшага „праступак“ паліцыянта, ці так якую грэшную асобу, дык—як-бы на кару—пхне яго на „Крэсы“, такім чынам запэўняючы яму існаваньне, а ты бедны, гаротны селянін-беларус цярпі іхныя зьдзекваньня над табою, ды маўчы—сьцяўшы зубы, а то навет і памірай ня маючы ратунку. Ідзі гвалтам да школы, хоць цябе адтуль праганяе біцьцём у твар вучыцель.

Вось, возьмем для прыкладу вучыцеля Казлоўскае „паўшэхнае“ школы п. А. Ваячка, які славіцца сваім мардабойствам вучняў. Факты: біў Янку Грыба сёлета — з Даўбневіч вучня V аддзелу; некалькі разоў выцяў у твар вучня V аддзелу Віктара Слабада з м-ка Казлоўшчыны, які ад таго часу змушаны быў кінуць хадзіць у школу і г. д. Гэта так павінен вучыць настаўнік XX веку! Гэта ганьба ўсяму польскаму вучыцельству.

Аб паліцыянтах ня варта пісаць, шкада паперы. Аб выбрыках польскіх паліцыянтаў грыміць уся лявіца: даволі праглядзець хоць адну газэту гэтых партыяў.

Хочацца ўсё высказаць, каб хоць лягчэй стала на душы, каб пачырванелі вінавайцы і можа-б трохі ўстрымаліся ад сваіх нягодных учынкаў... Не магу тут абмінуць і Казлоўскую казённую акушэрку-фэльдчэрку нейкую п. К. Кевліч. Адзначаецца яна, як усе нашыя паразіты—вялікаю лапчывасьцю на грошы: хай чалавек паміграе, але калі ня мае граша, не паедзе яна і ня будзе даваць ніякай помачы. Факты: Аднойчы прыходзіць да яе на прыватную кватэру адна жанчына з вёскі Маськаўцаў, у гадзін, так, 6 раніцы і просіць аб помачы. Першы чынам п. Кевліч накінулася на яе, чаму яна так рана прыйшла,—„przecież szósta godzina, to jeszcze noc“. Ведама, — бедная маці ратунку для свайго дзіцяці ў кожную пору шукае. А п. Ківлевічавай ўсёроўна! Далей, ці маеш грошы, калі маеш 4 злотыя, то буду лячыць, а як не, то не! Жанчына, пачуўшы такую суму—для цяперашняга селяніна непамерна вялікую—залілася сьлязмі і пайшла ня з чым.

Другі факт: 17-га ліпня г. г. прыходзіць жанчына, нейкая Хвілімончык з вёскі Акачы, Казлоўскай гм., з слабенькім дзіцянём, якое хварэла на панос — гэта хвароба ў нас пануе—і просіць ратунку. Першым запытаньнем акушэркі было—ці маеш грошы. Жанчына ня мела пры сабе грошай, дык яна са сьлязмі цалуе рукі і плача, просіць, каб толькі памагла — яна ўсё заплоціць і г. д. Акушэрка сказала, што дзіця будзе жыва, толькі каб маці дала тры з паловай злотага. Жанчына на падлозе ў акушэркі кінула дзіця, а сама пабегла шукаць грошай. Пакуль жанчына прыбегла, то дзіця ўжо памерла. Жанчына, пабачыўшы канаючае дзіця, нема закляла акушэрку. Я бачыў, як бедная ішла вуліцаю, плачучы і праклінаючы грашалупаў. Сэрца абліваецца крывёю, гледзячы на тое, што за некалькі залатых губяць нашых дзяцей. Эх ты доля, калі ты палепшаеш! А калі палепшыцца нашая доля? Калі пазбудземся мы гэтакіх тыпаў? Тады, браты, калі мы моцна арганізуемся, калі мы створым сялянска-работніцкі ўрад! А цяпер, браты, дарогай да стварэньня сялянска-работніцкага ўраду ёсьць барацьба пад сьцягам Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

**Пярун.**

## Вёска пад ботам паліцыянта.

(Баранавіцкі пав.).

У Кастрычніку 1925 г. паліцыя арыштавала ў вёсцы Ярошаве 8 маладых хлапцоў і 4 жанчыны, быццам, за камуністычную працу. Многа прыйшлося перацярпець арыштаваным: „badali“ іх і ў м. Моўчадзі, і ў Баранавічах, і ў Слоніме, а пасьля ўсіх пасадзілі ў вастрог. Пасьля чатырох месяцаў турмы ў лютым сёл. году выпусьцілі іх, узяўшы пад нагляд дзярж. паліцыі ў м. Моўчадзі. Двох сялян Андрэя Журка і вучыцельку Васілісу Камар затрымалі ў турме да суду. Вярнуўшыяся ходзяць адзін раз на тыдзень, у спэцыяльна вызначаныя дні, мэльдавацца на пастарунак у Моўчадзі, які знаходзіцца ў 10 кілямэтрах ад вёскі. Грам. Камар і яго дзеці: Рыгор і Ганна, трацяць на гэтыя мэльдаваньні ажно 3 дні ў тыдні. Зварачваліся яны да сьледаваццеля ў Слоніме з просьбай, каб пазволіў зьяўляцца на пастарунак аднаму прадстаўніку ад гэтай сям'і ды ў адзін дзень, але адказу ніякага не атрымалі. Цяпер-жа ў вёсцы ўся моладзь прыціхла, бо нельга зьбірацца нат на вечарынкі. Афіцыяльнай забароны няма, але затое ёсьць вясковы сышчык Язэп Журка, які пільнуець вёскі, як сабака. Многа праз яго сядзела і сядзіць у польскіх вастрогах нявінных ахвяраў. Няхай толькі некалькі хлапцоў зьбярэцца пачытаць газэту, або пагутарыць—Язэп Журка ляціць пяруном на пастарунак „мэльдаваць“, што ў вёсцы сабраньне. Паліцыя не дае ніколі супакою: прыходзіць ўдзень і ўночы, але ніяк ня можа нікога злавіць „na gorącym uczynku“. Аднак, жыцьця няма, дый ня будзе, бо сышчык пагражае тым, што зноў усіх (пераважна сваіх асабістых ворагаў) пасадзіць у турму. Памятай, панскі лякай, што за сьлёзы нявінных сялян будзеш калісь адказваць і... будзеш каяцца!

**Ярашэвіч.**

## „Патрыятычны войт“.

(Сьвержанская гм., Стаўпецкага пав.).

Часта пішуць у газэтах, што той або іншы войт—злодзей, які абакраў амаль-што ня ўсю гміну. Ясна, гэта ня трэба разумець даслоўна г. зн., што ён лазіў, напрыклад, па сьпіжарнях, або па каморах. Аб гэтым ня чуваць пакуль-што, але чуваць, што яны акрадаюць людзей у іншы спосаб, як напрыклад, запісываюць людзей на ад'езд у Амэрыку, бяруць за гэтае грошы, а людзі і дасюль сідзяць па сваіх хатах. Бывае часта і так, што зьбіраюць грошы на пажарны інструмэнт, гарыць, як на грэх, вёска—і не аказваецца ні грошаў ні інструмэнту, і ніхто, кроме войта, ня знае, куды гэта ўсё падзелася. З нашым войтам Абрыцкім сталася іншая брыдкая гісторыя. Манючыся праслыць вялікім патрыётам сваей бацькаўшчыны і гэтым самым падлізацца да начальста, ён напісаў цэлы палітычны данос на аднаго з грамадзян. з Сьвержані М. Ш.

У сваім даносе Абрыцкі пісаў, што гэты самы М. Ш. ёсьць ніхто іншы, як бальшавіцкі шпіён, які навет даваў яму 200 даляраў за тое, каб ён, вялікі патрыёт Абрыцкі, памагаў бальшавікам прылучыць Заходнюю Беларусь да Савецкае.

Гэтакі данос Абрыцкі адаслаў у рэдакцыю польскае газэты ў Несьвіж, якая яго і надрукавала. З гэтага ўсяго вынікла цэлая справа. Грам. Ш. падаў на войта ў суд за клевяту, але Абрыцкі падгаварыў сьведак — сэкрэтара гміны Быліну, экзэкутара гміннага Брычкоўскага ды сваю радню, каб яны на судзе далі фальшывае паказаньне.

Грам. Ш. справы ня выйграў, але за тое падаў да пракурора жалабу, у якой абвінавачвае ўсіх у фальшывых паказаньнях прад судом.

Цікава яшчэ адно, аб чым нікому з уладаў няма дзела, хаця ў гміне голасна аб гэтым гамоняць. Войт, пакуль не зрабіўся войтам, а разам і — патрыётам—быў голы, як рудая мыш. А цяпер ён аплыў жырком, заводзіць добрую гаспадарку, робіць прыёмы гасьцей, дзеля чаго навет запрашае кухара з рэстарацыі, бо свая баба ня зможа так смачна прыгатаваць абед. Ня ведама, ці ён узбагацеў даносамі, ці іншым якім шляхам?

**Сьвержанскі.**

## Нам пішуць з вёскі што:

У вёсцы Гародзіцы, Пінскага пав., пасол з „Wyzwalenia“, ня прыдумаўшы нічога іншага на „Белар. Сялян.-Работ. Грамаду“, закідаў ёй, што яна жыдоўская арганізацыя.

У Стаўпецкай гм., Стаўпецкага пав., войт Петрашэвкі, забіраючы ў солтысаў грошы, зьдзёртыя з сялян за падаткі—не дае квітанцыяў, і падаткі другі раз спаганяюць.

**Ад Рэдакцыі.** Трэба браць расьпіскі ад солтысаў.

У вёсцы Малахоўцы Баранавіцкага павету квартэруючыя тут салдаты 27 палку уланаў пакралі ў гаспадароў мёд, курэй, а ў аднаго сала.

У вёсцы Морчы, Наваградзкага павету — паліцыя апісала апошнія каровы ў сялян Градзкага і Калядзюка на падаткі.

Стаўпецкі войт украў 10 тысяч злотых з гміны і да гэтага часу не пакараны.

# Мітынг Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

(М. Скідэль, Горадзенскага пав.).

У аўторак 27 ліпня бяг. г. адбыўся мітынг Грамады у м. Скідэлю, Горадзенскага павету. Ня гледзячы на будні дзень і на рабочы час, на мітынг сабралася больш 1500 асоб. Вельмі ўважліва была выслухана прамова пасла з Грамады Паўлы Валошына, які падробна інфармаваў прысутных аб працы Соймавага Клюбу Грамады, аб тым, якую цяжкую барацьбу прыходзіцца весьці ўсёй Грамадзе на заходня-беларускіх землях за нацыянальныя правы беларускага народу, за яго культурнае адраджэньне, за зямлю для сялян, за сялянска-работніцкі ўрад. Ахарактэрызаваў прамоўца адносіны ўлады да беларускіх сьвядомых працаўнікоў на правінцыі, працу Міністэрства Справядлівасьці на нашых землях, ахарактэрызаваў сучасны ўрад Бартэля-Пілсудскага, паднёс справу амністыі для палітычных вязьняў, справу школьніцтва беларускага, справу асадніцтва і г. д.

Прамова некалькі разоў была перарывана гучнымі воплескамі. Агульны бадзёры настрой панаваў увесь час на мітынгу.

Мітынг закончыўся аднагалосным прыняцьцем, пад дружныя воплескі, ніжэй паданай рэзалюцыі:

„Выслухаўшы прамову пасла Валошына з Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады на мітынгу ў Скідэлі 27. VII. 26 г., мы, прысутныя на мітынгу, пастанавілі:

1) Дамагацца поўнае амністыі для ўсіх палітычных вязьняў, якія вялі барацьбу за працоўныя масы і нацыянальнае вызваленьне прыгнечаных нацыянальнасьцяў; адначасова дамагацца скасаваньня кары сьмерці і скасаваньня палявых (даразных) судоў.

2) Дамагацца запраўднае раўнапраўнасьці для ўсіх нацыянальнасьцяў; дамагацца права на самавызначэньне для народаў Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны.

3) Дамагацца безадкладнага выданьня закону аб перадачы ўсяе зямлі беззямельнаму і малазямельнаму сялянству бяз выкупу і сплаты.

4) Дамагацца безадкладнага пералажэньня падаткаў на заможныя клясы.

5) Дамагацца скасаваньня асадніцтва і безадкладнага спыненьня грашавых дапамогаў асаднікам са скарбу Дзяржавы.

6) Дамагацца ўтварэньня Сялянска-Работніцкага Ураду.

Мітынг закончыўся воклічамі: „Няхай жыве Грамада!“ Няхай жывуць беларускія паслы!“

# Паштовая скрынка.

Гр. **„Беларусу“**. Вершы Вашы не падходзяць. Папрабуйце пісаць карэспандэнцыі аб жыцьці Вашае вёскі. Газэту высылаем.

Гр. **Хмары**. Па зьместу Вашыя вершы вельмі добрыя, але над формай мусілі-б яшчэ доўга і цярпліва працаваць. Пакуль-што прысылайце карэспандэнцыі.

Гр. **С.** Пісем Вашых аб Паўлюкевічу не зьмяшчаем, бо аб яго штучна скліканым зьезьдзе ў нас шмат пісалася. Цяпэр будуць адбывацца павятовыя зьезды Грамады, а пасьля гэтага—агульны, з усей Заходняй Беларусі.

Гр. **„Беларусу“**.—Ваша пісьмо пераслалі мы ў пасольскі клюб Грамады з мэтай зляжэньня інтэрпэляцыі.

Гр. **„Новічку“**, **„Аднаму з маладых“**, **„бачыўшаму“**, **„С—каму“** і **„жыхару“** вёскі Берасьніцы—пісьмы Вашы выкарыстаем у наступным нумары.

Гр. **Свойскаму**. Адказ Вам дамо ў найбліжэйшым нумары.



Адказны-Рэдактар: **Т. Крачына.** Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**